# КРАЯЗНАЎЧАЯ ГАЗЕТА



№8(12)
ЖНІВЕНЬ
2001 года

ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ ГРОДЗЕНШЧЫНЫ


## КАНФЕРЭНЦЫЯ Ў ШЧУЧЫНЕ

Краязнаўцы Шчучыншчыны правялі 8 ліпеня ўстаноўчы сход рэгіянальнага краязнаўчага таварыства. З паведамленнямі аб развіцці краязнаўчага руху Гродзеншчыны выступілі старшыня Управы Беларускага краязнаўчага таварыства імя Тодара Нарбута прафесар С. Габрусевіч, старшыня Гродзенскай краязнаўчай асацыяцыі прафесар А. Майсяёнак.

Меркаванні аб працы мясцовых краязнаўцаў выказалі В.Дзежыц, Я.Сяргей, Я.Казлоўскі, У.Глаз і інш.

Прынята рашэнне аб стварэнні Шчучынскага краязнаўчага таварыства і адначасова раённага аддзялення БКТ імя Т.Нарбута. Старшынёй Шчучынскага таварыства абрана Л.К.Антухевіч, яе наменікам – В.А.Дзежыц. У складзе рады таксама Р.С.Бялячыц, А.С.Балобан, С.Г.Касперчук.

## СТАРШЫНЯ ТАВАРЫСТВА



**Антухевіч** Людміла Канстанцінаўна настаўніца гісторыі Першамайскай СШ Шчучынскага раёна. Закончыла Гродзенскі педінстытут імя Янкі Купалы. З 1979 г. кіраўнік школьнага гуртка "Юныя актывісты музея", заснавальнік народнага гісторыка-краязнаўчага музея. Вывучае этнаграфію, гісторыю адукацыі, падзеі 2-й Сусветнай вайны, стан помнікаў гісторыі і культуры. Публікуецца ў раённай газеце "Дзянніца".

## У ГОНАР АЛАІЗЫ ПАШКЕВІЧ

15 ліпеня ў г.п. Астрына Шчучынскага раёна адбылася канферэнцыя на тэму "Цётка – нашчадкам сваім на гады і стагоддзі". Гэтаму папярэднічаў мітынг-успамін на ўскрайку вёскі Стары Двор, дзе пахавана славутая дзеячка беларускага Адраджэння. Каля помніка паэткі ў г.п. Астрына да прысутных звярнуліся наменік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Віктар Праўдзін, старшыня Астрынскага пасялковага выканкама М.У.Васілевіч, паэт Рычард Бялячыц, сябры юнацкага аматарскага аб'яднання "Антарэс".

Канферэнцыя праходзіла ў Астрынскай СШ, дзе з 1982 г. існуе адзіны ў дзяржаве музей беларускай асветніцы. Прысутных прывітала загадчык аддзела культуры райвыканкама Алена Максімовіч. Даклады "Асоба і творчасць Цёткі ў кантэксце станаўлення беларускай класікі" і "Хрысціянскія матывы ў творчасці Цёткі" зрабіла Валянціна Коўтун — пісьменніца, даследчыца жыццёвага шляху і творчасці А.С.Пашкевіч (Цёткі), прэзідэнт Усебеларускага фонду Ефрасінні Полацкай.

Супрацоўнікі НАН Беларусі У.Карашчанка і У.Багдановіч выступілі з паведамленнямі "Асаблівасці культуры Шчучынскага і суседніх раёнаў Гродзенскай вобласці", "Творчасць Цёткі ў еўрапейскім кантэксце". Сябра Управы беларускага краязнаўчага Таварыства імя Т.Нарбута, прафесар Аляксей Пяткевіч гаварыў пра Цётку як значную постаць беларускай культуры.

Настаўніца беларускай мовы і літаратуры Астрынскай школы Галіна Людкевіч паведаміла пра адлюстраванне вобраза Цёткі ў творчасці навучэнцаў. Словы трывогі і надзеі пра стан беларускамоўнага навучання, у т. л. на радзіме Цёткі прагучалі ў выступленні старшыні Рады ТБМ імя Ф.Скарыны Алега Трусава.



Помнік Цётцы ў г.п. Астрына

У той дзень у Шчучыне таксама адбыўся літаратурна-паэтычны мітынг, святочны канцэрт, конкурсы, ускладанне кветак да помніка славутай зямлячцы.

**А.Дзіснёнак**

**(Працяг тэмы на стар. 4-й – 5-й).**

■ *УЛАСНАЕ МЕРКАВАННЕ*

# НЕ МЁРТВЫЯ ФОНДЫ, А ЖЫВЫЯ ДАКУМЕНТЫ

**На пасадзе дырэктара Дзяржаўнага архіва Гродзенскай вобласці Ларыса Іванаўна ЮНІНА працуе два гады. У гэтую ўстанову ўладкавалася ў 1976 г., закончыла Маскоўскі гісторыка-архіўны інстытут. Пачынала малодшым навуковым супрацоўнікам. Пасля мела пасады загадчыцы аддзела, намесніка дырэктара. Пры размове ўдакладніла:**

— У даведніках пазначана, што архіў створаны 11 лютага 1940 года. Да гэтай даты мы адносін не маем. У той час існавала Беластоцкая вобласць. Фактычна наш архіў запачаткаваны ў кастрычніку 1944 года, праз месяц пасля ўтварэння Гродзенскай вобласці. Фонды часова мясціліся ў прыстасаваных памяшканнях, нават у падвалах, асабліва трафейныя. Пра навукова-абгрунтаваныя ўмовы захавання гаварыць не даводзіцца. Праўда, з часам архіў размясцілі ў былой лютаранскай кірхе. У 1994 справілі наваселле ў новым, спецыяльна пабудаваным 7-мі павярховым будынку. Пяць паверхаў займае сховішча. Умовы працы добрыя. Што да кірхі, то яна перададзена гарвыканкамам вернікам і служыць па прызначэнні.

**— Архіў – строгая ўстанова. Пра гэта нагадвае суровая вахцёрка ў вестыбюлі з абавязковым патрабаваннем пасведчання асобы і пытаннямі: куды, да каго чалавек ідзе...**

— Так, мы рэжымная арганізацыя. Але дзверы адчынены кожнаму, у каго ёсць патрэба звярнуцца да нас. У наяўнасці маем 393 тысячы 140 адзінак захоўвання на беларускай, рускай, польскай, нямецкай мовах. Сюды былі перададзены матэрыялы ўстаноў і прадпрыемстваў былых Маладзечанскай, Баранавіцкай, Беластоцкай абласцей, частка тэрыторыі якіх была перададзена Гродзеншчыне. Дакументальных сведчанняў аб барацьбе членаў КПЗБ і КСМ Заходняй Беларусі няшмат. Мала дакументаў таксама за 1939 – 1941 гады. У 1943 годзе гітлераўцы вывезлі амаль 40 адзінак захавання гістарычных дакументаў. Шкада, што іх след згубіўся нібыта ў Данцыгу. Аднак мы маем каля 50 фондаў трафейных здабыткаў за 1941-1944 гады. Напрыклад, Гродзенскага ўезднага камісара. Межы ўезду былі шырэй, напрыклад, чым сучаснага раёна. Пагэтаму маем дакументы з тэрыторыі цяперашняга Сувалкаўскага павету Польшчы, Шчучыншчыны...

**— Цяпер шмат хто з грамадзян, у час вайны вывезеных на прымусовую працу ў Германію, шукаюць дакументальныя пацверджанні гэтаму. Як-ніяк, справа ідзе аб выплаце нямецкім бокам грашовай кампенсацыі за страчанае здароўе, гвалт над чалавекам, невыносныя ўмовы паднявольнай працы...**

— Найбольшы наплыў запытаў і заяваў прыйшоўся на пачатак 90-х гадоў. У 2000-м годзе да нас звярнулася 2.594 грамадзяна. Дзесяць гадоў вывучаем былыя фашысцкія дакументы. Перакладзена толькі нязначная частка. Шмат якія з папер напісаны готыкай, нават не ўсе вопытныя перакладчыкі могуць разабрацца што да чаго. У цэлым 50 працэнтаў людзей атрымалі станоўчыя адказы. Знайшліся спісы выгнаных, транспартныя лісты, медыцынскія карткі. Звяртаюцца асобы з Усходняй Беларусі, нават з Расіі. Тлумачыцца гэта тым, што грамадзяне адтуль былі вывезены на паднявольную працу ў нашы мясціны. Нельга забываць, што тэрыторыя Гродзеншчыны была далучана да рэйха.

**— Работа з пісьмамі грамадзян рэгламентавана законам. Аднак гэта вымагае шмат часу на пошук патрэбнага, падрыхтоўку афіцыйнага адказу заяўляльніку. Ці прадугледжана аплата за аказанне пэўных паслуг?**

— Усе паслугі па сацыяльна-прававых запытах выконваюцца бясплатна. Іншыя — за невялікі кошт, напрыклад, падрыхтоўка даведак біяграфічнага характару. Сустракаюцца просьбы аб пацверджанні валодання зямлёй, пабудовамі да 1939 года паводле сведчанняў найперш дакументаў на польскай мове. Гэта, думаю, уласціва толькі архівам Гродна, Брэста і Маладзечна. Нехта просіць знайсці ў судовых справах дадзеныя аб разводзе, знаходжанні ў лагерах, гета. У кожнага свая праблема. Спрабуем дапамагчы...

**— У архіўнай справе свае законы. Ёсць, напэўна, тэрміны, калі прадпрыемствы і арганізацыі абавязаны здаць на захоўванне вызначаныя зацверджаным спісам дакументы?**

— Мы атрымліваем звесткі з сямі раёнаў вобласці. Гэта статыстычныя сведчанні, дакументы, якія маюць гістарычную каштоўнасць, дадзеныя па розных галінах народнай гаспадаркі, дакументацыя прадпрыемстваў так званага першага звяна – Гродзенскага вытворчага рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Азот", камбіната будаўнічых матэрыялаў і інш. Штогод прымаем ад крыніц папаўнення да 12 тысяч спраў. Тэрміны ведамаснага захоўвання складаюць ад пяці да 30 гадоў. Пасля гэтага дакументы павінны быць здадзены ў архіў. Маем 562 крыніцы камплектавання, пачынаючы з узроўню выканкама сельскага Савета.

**— Выканаць такі аб'ём работы пад сілу зладжанаму калектыву...**

— Штат колькасна не мяняўся ўжо гадоў дваццаць. З 43 чалавек – 25 спецыялісты. Усе маюць вышэйшую адукацыю. Белдзяржуніверсітэт рыхтуе выпускнікоў-гісторыкаў з патрэбнай нам спецыялізацыяй. Маем чатыры аддзелы – захаванасці дакументаў, інфармацыйна-пошукавых сістэм, ведамасных архіваў, аддзел навуковага выкарыстання. Кожны мае канкрэтны кірунак работы. Займаемся таксама рэстаўрацыяй дакументаў. Уласнымі сіламі рыхтуем 8-10 публікацый у год, распавядаем аб нашай рабоце, цікавых фактах мінулага. Друкуюць свае даследаванні вучоныя і краязнаўцы, гісторыкі і студэнты, якія штодня наведваюць чытальную залу. Шмат хто цікавіцца газетамі Гродна і Вільні 20-х — 30-х гадоў, польскімі статыстычнымі зборнікамі даваеннага часу, дакументамі савецкага перыяду. Як навукова-метадычная ўстанова аказваем дапамогу ў арганізацыі захавання архіўных спраў на прадпрыемствах. Мы зацікаўлены атрымаць дакументы ў добрым стане. Рыхтуем уласны даведнік па нашаму архіву, тады знайсці патрэбны дакумент будзе куды лягчэй, чым зараз.

**Гутарыў Антон Лабовіч**

■ АСОБЫ ПРЫНЁМАНСКАГА КРАЮ

# “ЯК ПАВЕТРА, ЯК ХЛЕБ ЧАЛАВЕКУ ПАТРЭБНА ПЕСНЯ”

І стаў ён песняй сам у народзе
Цудоўны край наш! У прыволлі
Гамоніць Нёман між лясоў.
Дубы-асілкі ў наваколлі
Вартуюць тайны курганоў.

І сапраўды гэта так. Няма ніводнага куточка беларускай зямлі, які б не меў сваіх герояў, славутых дачок і сыноў, імёны якіх спрадвеку звязаны з роднай зямелькай. Да кагорты такіх славутых людзей у нашым цудоўным Прынямонні належыць і глыбокапаважаны і дарагі ўсім нам Аляксандр Канстанцінавіч Шыдлоўскі, Заслужаны дзеяч культуры Беларусі, выдатны кампазітар, паэт, песні якога сёння сталі набыткам нацыянальнай культуры, гонарам Прынёманскага краю.



Аляксандр Шыдлоўскі (злева) і Апанас Цыхун - аднагодкі. Кожнаму з іх 90. А разам - ажно 180!

Ён нястомны працаўнік. На яго творчым рахунку зараз больш за 300 песень. Гэта сапраўдныя дыяменты, якія нясуць на сабе адбітак аўтарскай індывідуальнасці, праяўляюць прыхільнасць да беларускіх народных традыцый.

Сярод іх асаблівая песня “Колькі ў небе зор”, якую я часта сам спаваю і іграў на скрыпцы. Яна так лёгка спяваецца і іграецца! Гэтую песню спявае і моладзь, і людзі старэйшага веку. Песня незвычайная, бо яе Аляксандр Канстанцінавіч прысвяціў самаму дарагому свайму чалавеку, сваёй жонцы Барбары Яфімаўне.

Творчы лёс звязаў мяне з Аляксандрам Шыдлоўскім. Ён і на мае словы напісаў музыку да песень – “Мне не абняць прастораў края”, “Ты — зорка мая залатая”, “Беларусь – наша маці”, “Радзіма”, “Песня пра Кастуся Каліноўскага”.

“Як паветра, як хлеб чалавеку патрэбна песня”, — кажа, з’вяртаючыся да ўсіх нас, выдатны наш кампазітар і паэт Прынёмання Аляксандр Канстанцінавіч Шыдлоўскі. Хаця яму шэрая зязюля 28 чэрвеня гэтага года і накукавала 90 гадоў, а ён адчувае сябе бадзёра, працуе, піша цудоўныя новыя песні на свае словы, і гэтыя песні зноў зазвіняць, залунаюць над родным бацькам-Нёманам, і крануць сэрцы і душы нашых слаўных дачок і сыноў, усіх грамадзян шматпакутнай Бацькаўшчыны.

**Апанас Цыхун,**
**сябра Рады Гарадзенскай краязнаўчай асацыяцыі,**
**Заслужаны настаўнік Рэспублікі Беларусь.**

**У папярэднім нумары «Краязнаўчай газеты» мы прысвяцілі старонку жыццю і дзейнасці Аляксандра Шыдлоўскага. У мінулым годзе 90-годдзе адсвяткаваў Апанас Цыхун. Гэта ён даслаў у рэдакцыю матэрыял пра свайго сябра, а таксама песню, прысвечаную краязнаўцам Гродзеншчыны, напісаную ў творчай садружнасці.**




# МОЙ КРАЙ

1. Край мой там, дзе родны гоман,
Звон пад небам жаўрука,
Дзе блакітны ўецца Нёман
З ціхім чоўнам рыбака.

Прыпеў: На прасторах Прынямоння
Дрэмлюць славы курганы,
Тут відны яшчэ і сёння
Войнаў страшныя сляды.

2. Край мой там, дзе спеў дзявочы,
Хаты сёл, сады ля іх,
Дзе чаруюць хлопцаў вочы
Прыгажуняў маладых.

Прыпеў: Тут прыход вясны разносяць
Буслы клёкатам сваім.
І як дар, яны прыносяць
Шчасце парам маладым.

3. Край мой там, дзе я вясною
Нарадзіўся, свет пазнаў.
І ўсім сэрцам і душою
Край свой родны пакахаў.

Прыпеў: Ён мілейшы мне на свеце,
Неразлучна з ім жыву.
Мову родную і песні –
Скарб бясцэнны берагу.

■ ДА 125-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЦЁТКІ (АЛАІЗЫ ПАШКЕВІЧ)

# СВЯТА У РАЁНЕ

Да святкавання 125-годдзя Цёткі (Алаізы Пашкевіч) мы рыхтаваліся загадзя. З творчасцю Цёткі пазнаёмілася шмат жыхароў раёна. Работнікі бібліятэк і клубаў на прыкладзе яе біяграфіі паказалі імкненні і пакуты гэтай жанчыны ў імя ідэі свабоды і вольнасці чалавека.

Паседжанне літаратурна-музычнай гасцёўні пад назвай "У кожным імгненні паэзія ёсць" падрыхтавалі супрацоўнікі Жалудоцкай пасялковай бібліятэкі, Дома культуры і музычнай школы. Да прысутных звярнулася загадчыца Жалудоцкай бібліятэкі А.Р.Сярко. Вядучымі свята былі бібліятэкар Г.Н.Бекіш і загадчыца дзіцячага сектару Дома культуры Н.С.Сеўка. Ролю Цёткі выдатна выканала бібліятэкар С.К.Іода.

Вучні чыталі вершы паэткі. Творы "Вера Беларуса", "Сірацінка", "Скрыпка", "З чужыны" успрымаюцца цяпер як духоўны запавет. Удзельнікаў паседжання парадаваў прыгожымі песнямі калектыў Жалудоцкага ДК – "І спявала птушка", "Зямля мая", "А калі той вечар". Шмат апладысментаў выпала на долю выкладчыцы музычнай школы Г.А.Лазоўскай і работніка Дома культуры У.У.Бекіша.

"Літаратурная старонка горада" – пад такой назвай ладзілася паседжанне літаратурнай гасцёўні ў гарадской бібліятэцы Шчучына. Гаворка вялася аб творчасці Цёткі, гучалі вершы, прысвечаныя ёй.

Супрацоўнікі раённай бібліятэкі, Дома палякаў і СШ №2 г. Шчучына правялі сумесную канферэнцыю на тэму "Славутыя землякі". Удзел прымалі вучні 7-х - 9-х класаў. Агляд творчасці Цёткі зрабіла бібліятэкар цэнтральнай бібліятэкі Л.С.Татаранка. Паведамленні зрабілі таксама вучаніцы О.Шчука, Н.Мыслівец. Дакументальныя матэрыялы па гісторыі раёна прадставіў вядомы краязнаўца В.А.Дзежыц.

Шэраг іншых бібліятэк таксама падрыхтавалі і правялі літаратурна-музычную кампазіцыю "Жыве мая ліра нанова" (Навадворская СБ), літаратурна-музычную кампазіцыю "Дух народа я абняла б" (Васілішкаўская СБ), "Стану песняй у народзе" (Бакштаўская СБ) і г.д.

Кожная бібліятэка раёна афарміла тэматычныя паліцы і кніжныя выставы: "З сузор'я першых", "Думаць усюды аб народзе…", "Жыве мая ліра…", "З думай аб людзях". Змястоўная выстаўка была арганізавана ў цэнтральнай бібліятэцы бібліёграфам Г.Э.Астаповіч пад назвай "Жыве мая ліра нанова". Тут былі змешчаны творы Цёткі, яе біяграфія. Гэтыя матэрыялы дапамаглі школьнікам напісаць рэфераты па творчасці паэткі. Кніжная выстаўка "Палымяная паэтэса-рэвалюцыянерка" прыцягнула ўвагу наведвальнікаў Жалудоцкай пасялковай бібліятэкі. У раздзелах "Думаць усюды аб народзе", "Жыццё – подзвіг" змяшчаліся творы Цёткі, літаратура пра яе жыццё.

Работнікі Шчучынскай гарадской бібліятэкі (загадчыца В.В.Сакалоўская) падрыхтавалі выстаўку кніг, аб'яднаную па раздзелах "Свой скарб, народ, табе я аддаю", "Душа мая з бою, а лёс мой з пакутаў", "Стану песняй у народзе". Паведамленне "Цётка – наша зямлячка" падрыхтавала настаўніца Астрынскай СШ Г.Б.Пугач. Астрынскі народны паэтычны тэатр "Волат" паказаў новую пастаноўку па творчасці Цёткі.

**Алена Рыбак,**
**бібліятэкар аддзела бібліятэчнага маркетынгу Шчучынскай ЦБС**



# "КАБ НЕ СТРАЦІЦЬ СВЯТОЕ ШТОСЬЦІ…"

Нам, настаўнікам Астрынскай СШ імя Цёткі, добрую дапамогу ў выхаванні дзяцей аказвае творчая спадчына нашай зямлячкі. У 1976 годзе ў сувязі са 100-годдзем з дня нараджэня Цёткі (А.С.Пашкевіч) было вырашана адкрыць у нашай школе музей. Не адзін год збіралі вучні пад кіраўніцтвам настаўніцы Г.Б.Пугач матэрыял. Перапіска з А.І.Мальдзісам, В.П.Рагойшам, С.Х.Александровічам, А.М.Пяткевічам, Л.Л.Арабей, музеем Франко ў Львове, музеем Янкі Купалы, Ашмянскім краязнаўчым музеем імя Францішка Багушэвіча, архівамі Літвы дала нам магчымасць мець багаты збор пра жыццё і творчасць Цёткі, эканамічнае становішча тагачасных сялян.

15 снежня 1982 г. наш музей быў урачыста адкрыты. Там два пакоі. Экспазіцыі першага распавядаюць пра сям'ю Пашкевічаў, яе дзяцінства і юнацтва, ушанаванне памяці пісьменніцы. Экспанаты другога пакоя гавораць пра рэвалюцыйную дзейнасць Цёткі, яе вучобу і творчасць у Пецярбургу, Львове, Кракаве, Вільні, Мінску. Ёсць многа фотаздымкаў паэткі, яе родных і сяброў, выдатных дзеячаў культуры, якія аказалі ўплыў на станаўленне яе грамадзянскай пазіцыі і літаратурную творчасць.

Музей мае фотакопіі пісьмаў і заяваў Цёткі, ксеракопіі рукапісаў яе твораў, кніг, артыкулаў, надрукаваных у часопісе "Лучынка", іншыя матэрыялы. Наведвальнікі надоўга затрымліваюцца каля такіх унікальных рэчаў, як "Першае чытанне для дзетак беларусаў" Цёткі, Лекцыі па гісторыі сярэдніх вякоў (1900-1901), аповесці Элізы Ажэшкі "Арганаўты"(1900), Выпісы з беларускай літаратуры (1923), Этнаграфічнага зборніка (1855), буфета з хаты Пашкевічаў.

У свой час мастацкае афармленне музея зрабіла выпускніца нашай школы А.К.Дзерынг. Малюнкі распавядаюць аб рабоце Цёткі вясковай настаўніцай, фельчарам у лячэбніцы, міласэрнай сястрой у тыфозным бараку ў час першай Сусветнай вайны, літаратурнай творчасці пісьменніцы.

Дзверы музея адкрыты для ўсіх жадаючых бліжэй зведаць творчую спадчыну Цёткі.

**А.Балобан,**
**настаўніца беларускай мовы і літаратуры Астрынскай СШ імя Цёткі, кіраўнік музея.**

**(на здымку: наведвальнікі ў музеі)**

# НА РАДЗІМЕ ЦЁТКІ

### Чаму ўсё ж – Цётка?..

Пра самы вядомы псеўданім Алаізы Пашкевіч (нагадаем, што былі яшчэ – Мацей Крапіўка, Гаўрыла з Полацка, Тымчасовы, Банадысь Асака і інш.) напісана нямала. Дазволю і сваё тлумачэнне. Беларуская нацыя ў тым, ды, на жаль, і сённяшнім часе – сапраўдная сірацінка, няшчаснае дзіцятка, што не мае матулі. Таму і гібее ў сваёй хаце па цёмных кутках. А на лепшых месцах – мачыха са сваім вывадкам. Хто найрадней сірацінy ў такіх выпадках? Той, хто і спагадлівае сэрца мае і хто кроўны, родны. Цётка. Родная сястра бацькі ці маткі.

### Стала песняй у народзе?..

Нататкі пяцігадовай даўнасці закончыла яе, Цётчыным, — "Стану песняй у народзе". І маёй верай: так, стала. Велічнай песняй… І якраз тады, калі той артыкул ужо быў падрыхтаваны да друку, пачула ад калежанкі літаральна наступнае. Збіраліся на святкаванне ў Шчучын. Ішла яна па Гародні са сваёй дачкою і кажа, што едзем на гадавіну да Цёткі. Дачка ўдакладніла, колькі спаўняецца? – 120. Абганяе іх малады чалавек і, паказваючы сваё здзіўленне, з захапленнем усклікае: "Ну і жыве ж Ваша цётка!". Юнак, які нядаўна закончыў школу на Беларусі, не мае паняцця, хто яна — Цётка. Нешта сходнае згадвае Лідзія Арабей у сваіх мініяцюрах. Толькі ў якасці гэткага недавукa ў яе выступае адзін з райкамаўскіх сакратароў з Ліды ("Полымя", 1997, № 11).

Што ж гэта за народ такі, што дазваляе сабе забыць найлепшыя песні?

Якую ж песню запяюць ў новым часе юныя беларусы?

**Ала Петрушкевіч,**
**выкладчык кафедры беларускай літаратуры Гродзенскага дзяржуніверсітэта імя Янкі Купалы.**



**Прафесар Гродзенскага універсітэта імя Янкі Купалы, старшыня Беларускага краязнаўчага таварыства імя Т.Нарбута Сяргей Габрусевіч ускладае кветкі на магілу Цёткі (Алаізы Пашкевіч)**

■ *ЗАЗІРНЕМ У КАЛЯНДАР*

## АКАДЭМІКУ НАН БЕЛАРУСІ АНАТОЛЮ СВІРЫДЗЁНКУ – 65 ГАДОЎ



Акадэмік НАН Беларусі, прафесар, доктар тэхнічных навук Анатоль Іванавіч Свірыдзёнак

# СПРАВА ЖЫЦЦЯ ВУЧОНАГА

21 чэрвеня 2001 г. Прэзідыум Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі прыняў пастанову аб пераўтварэнні існуючага ў Гродне аддзела праблем рэсурсазберажэння ў Навукова-даследчы цэнтр.

За фармальным перайменнем стаіць вялікая праца кіраўніка акадэмічнай установы прафесара Анатоля Іванавіча Свірыдзёнка і яго супрацоўнікаў у навуковым забеспячэнні распрацоўкі і рэалізацыі рэсурсазберагальных тэхналогій, стварэння ў рэгіёне і краіне «рэсурсазберагальнага клімату». Шэраг распрацовак акадэмічных вучоных, у прыватнасці, фільтравальныя матэрыялы і тэхналогіі, дубліраваныя і матэрыялы для ўшчыльнення, электраправодныя змазкі і інш. выкарыстаны на прадпрыемствах Гродзенскай вобласці.

Гэта ўсё вынікі творчай дзейнасці сапраўднага члена НАН Беларусі, прафесара, доктара тэхнічных навук Анатоля Іванавіча Свірыдзёнка. 7-га ліпеня яму споўнілася 65 гадоў. За плячыма акадэміка кіраўніцтва Інстытутам механікі металапалімерных сістэм АН БССР ( у Гомелі), заснаванне ў Гродне другой па ліку акадэмічнай установы – аддзела праблем рэсурсазберажэння АН Беларусі, Усесаюзнага часопіса "Трение и износ", стварэнне навуковай школы, прадстаўнікі якой сталі буйнымі спецыялістамі ў акадэмічных і прыкладных даследаваннях. Праца А. Свірыдзёнка адзначана Дзяржаўнай прэміяй (1972), дзяржаўнымі ўзнагародамі.

Цяжка стварыць новае ў крызісны і эканамічна няўстойлівы час. Тым не менш, галоўны клопат акадэміка А.І.Свірыдзёнка – гэта абгрунтаванне рэсурсна-навуковай мадэлі ўстойлівага развіцця Беларусі ў 21-м стагоддзі. Як бачым, тытанічны цяжар ускладаў акадэмік на свае плечы. Але ў гэтым – сэнс жыцця Анатоля Іванавіча, непадзельная частка яго няўрымслівага характару і невычарпальнай энергіі.

У гэтыя дні са словамі прывітання да юбіляра звярнуўся Старшыня Савета рэспублікі Нацыянальнага Сходу Беларусі акадэмік А.Вайтовіч. У тэлеграме ёсць такія радкі: "Самая высокая ўзнагарода для чалавека – удзячнасць людзей за плённую працу, вернасць сваёй справе, адданасць інтарэсам Айчыны і яе народа, шырокая спагада і сардэчная дабрыня. З гонарам і радасцю сведчу аб тым, што Вы маеце такую найкаштоўнейшую ўзнагароду".

**Андрэй Майсяёнак,**
**член-карэспандэнт НАН Беларусі.**

■ *ПРА КНІГУ І ЯЕ АЎТАРАЎ*

# КРАЙ НАД БЕЛАВЕЖСКАЙ ПУШЧАЙ




Выдадзены зборнік "Старонкі гісторыі Свіслацкага раёна". Тут змешчаны матэрыялы навукова-практычнай краязнаўчай канферэнцыі. Гэта не першая кніга такога кшталту ў рэгіёне. Намаганнямі адпаведных райвыканкамаў, аддзела археалогіі Інстытута гісторыі НАН, кафедры гісторыі Беларусі Гродзенскага дзяржуніверсітэта імя Янкі Купалы, абласнога савета грамадскага аб'яднання "Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры" аналагічныя выданні маюць амаль усе раёны вобласці.

Каштоўнасць кнігі бачыцца ў адлюстраванні багатай гісторыі Свіслаччыны ад даўніх часоў да нашых дзён. Можна шмат даведацца пра гісторыка-архітэктурныя помнікі, разнастайныя падзеі на гэтай зямлі, знакамітых асобаў. Вучоныя і краязнаўцы падрыхтавалі глыбокія даследаванні, уключаючы летапісную старыну, апісанне першабытных помнікаў і старажытнасцяў, археалагічных і гістарычных сведчанняў Белавежскай пушчы, аналіз даўнейшых тэкстаў, сярэднявечча...

Нямала гаворыцца аб Свіслацкай гімназіі і яе выхаванцах, многія з якіх уваходзілі ў розныя патаемныя таварыствы. Не абыйдзены ўвагай вядомыя грамадскія дзеячы, вучоныя, гісторыкі, спартсмены, воіны, чый лёс звязаны са Свіслаччынай.

Спрэчнай здаецца нам публікацыя Валерыя Чарапіцы, прысвечаная Кастусю Каліноўскаму. Можна мець уласны погляд на гістарычныя факты. Але нельга імі карыстацца ў сучасных палітычных гульнях.

Артыкулы даюць добрае ўяўленне пра гэты край. Асабліва тым, хто збіраецца прыехаць на Свіслаччыну па справах ці на адпачынак. Не кажучы пра настаўнікаў гісторыі і краязнаўцаў. Для іх гэтая кніга – неацэнны дапаможнік.

Аўтарскі калектыў спалучае вядомых даследчыкаў (І.Крэнь, І.Трусаў, І.Коўкель, В.Швед, У.Ягорычаў, В.Чарапіца, М.Васілючак, І.Трацяк, Э.Ярмусік), а таксама краязнаўцаў (Ф.Ігнатовіч, А.Палубінскі, Н.Калач, М.Сачок, Н.Пакутнік, Ч.Горбач, В.Каржаневіч і інш.).

**Сцяпан Ярашчук**

# ДЗІЎНАЯ ПУБЛІКАЦЫЯ, КАЛІ НЕ СКАЗАЦЬ БОЛЬШ

Са здзіўленнем прачытаў матэрыял прафесара Гродзенскага дзяржуніверсітэта В.Чарапіцы "Спрэчкі вакол Кастуся Каліноўскага: учора і сёння" (зборнік "Старонкі гісторыі Свіслацкага краю", Гродна, 2001).

Выяўляецца даволі павярхоўнае знаёмства шаноўнага прафесара з літаратурай пытання. Гаворачы пра рускую дарэвалюцыйную гістарыяграфію паўстання 1863 г., В.Чарапіца адзначае:

*"У гэты ж час у творах філосафа Мікалая Страхава паўстанне 1863 г. было ахарактарызавана як стычка дзвюх цывілізацый: заходняй ці уніяцка-каталіцкай, польскай і ўсходняй, праваслаўна-рускай, пры якой нацыянальная афарбоўка падзей не мела значэння (!). Пазней гэта стала падставай для паказу антыправаслаўнага характару польскага паўстання. У гэтай сувязі неаднойчы рабіўся націск на тое, што Каліноўскі быў двойчы – 6 лютага і 4 красавіка 1836 года ахрышчаны ў Ялаўскім касцёле па каталіцкаму абраду пад іменем Вікенція і Канстанціна, а таму яго польскасць была відавочнай (!). Шмат пісалася аб крывавых расправах паўстанцаў ("жаўнераў-вешацеляў") з праваслаўным людам..." (Стар. 153).*

Чытаць гэта мне было ніякавата. Выходзіць, паводле В.Чарапіцы, на хросныя метрыкі Каліноўскага спасылаліся ўжо ў дарэвалюцыйны час, а між тым згаданыя даты хрышчэння ўпершыню названы мною ў летапісе жыцця і дзейнасці Каліноўскага (гл.: Кісялёў Г. З думай пра Беларусь.Мн., 1966, с.94) на падставе вывучэння метрычных кніг Ялоўскага касцёла, выяўленых у віленскім гістарычным архіве. Пра тое, што Каліноўскага хрысцілі двойчы, ніхто да гэтага часу не ведаў.

Далей чытаем (пра польскую і беларускую дарэвалюцыйную гістарыяграфію):

*"... у афіцыйным (?) друку імя Каліноўскага ў тыя часы амаль не сустракалася, затое ў нелегальных выданнях беларускіх народнікаў, польскіх сацыялістаў, а затым сацыял-дэмакратаў і марксістаў гэта рабілася даволі часта. Першы значны крок да ўздыму Каліноўскага на гістарычны п'едэстал у якасці нацыянальнага беларускага героя быў зроблены ў канцы 19-га – пачатку 20-га стагоддзя, калі пры ідэалагічнай і практычнай падтрымцы Польскай Сацыялістычнай партыі (ППС) сталі ствараццца і дзейнічаць першыя беларускія палітычныя групоўкі..." (с.153-154).*

У сапраўднасці, згадак пра Каліноўскага ў тагачасным народніцкім і сацыялістычным друку было, на жаль, вельмі мала. Тым больш, не было такіх ранніх спробаў (паводле В.Чарапіцы, нават у канцы 19-га ст.) узняць Каліноўскага "на гераічны п'едэстал".

А вось адваротны прыклад. Характарызуючы польскую пасляваенную гістарыяграфію, В.Чарапіца піша:

*"У гэты самы час нашыя заходнія суседзі, у якіх пад лозунгам аб польска-савецкім сяброўстве адбываліся так званыя дэмакратычныя пераўтварэнні, наогул стараліся пра Каліноўскага не ўспамінаць, а калі міма гэтай праблемы нельга было прайсці, то ён звычайна характарызаваўся як "тэмпераментны рэвалюцыянер і хлопаман", які сфарміраваўся пад уплывам польскай культуры, але кроўна звязаны з беларускім народам" (с.155).*

Між тым, у пасляваеннай Польшчы было нямала публікацый пра Каліноўскага. Назавём хаця б салідную манаграфію В.Кардовіча "Канстанцін Каліноўскі" (Варшава, 1955), або грунтоўны артыкул К.Канкалеўскага "Канстанцін Каліноўскі і яго публіцыстычная дзейнасць 1862-1864 гадоў" (Уроцлаў, 1956).

Вельмі недакладна інфармуе В.Чарапіца пра дыскусіі адносна Каліноўскага ў БССР у 20-я гады, зусім не ўспа-

мінаючы пра круты паварот партыйных валюнтарыстаў у нацыянальнай палітыцы ў канцы 20-х г. (с.154). Калі верыць В.Чарапіцу, помнік Каліноўскаму дагэтуль не пастаўлены, бо гэтага не жадае беларускі народ (с.156). і г.д., і г.д.

Пры азнаямленні з публікацыяй В.Чарапіцы ствараецца ўражанне, што з усіх, хто ў розныя часы пісаў пра Каліноўскага, В.Чарапіцу найбольш блізкі публіцыст лонданскага беларускага праваслаўнага часопіса "Голас часу" Юры Весялкоўскі. Праўда, і тут не абыйшлося без звыклага перакручвання: прозвішча публіцыста паслядоўна перадаецца як Весялоўскі. А ў астатнім у В.Чарапіцы з Весялкоўскім-Весялоўскім наладзіўся даволі дружны дуэт. Лонданец падабаецца В.Чарапіцы, бо той "падыйшоў да Каліноўскага без традыцыйнай узвышанасці, напалову пераплеценай з дэмагогіяй, а дзелавіта і проста – па-сялянску" (с.157). Наш прафесар з прыемнасцю цытуе артыкул лонданскага публіцыста "19-е стагоддзе на Беларусі і Кастусь Каліноўскі" ("Голас часу, 1991, № 2) і нават узмацняе яго выпады супраць Каліноўскага сваімі рэмаркамі-дапаўненнямі ў дужках. Вось цытата з Весялкоўскага ў перадачы В.Чарапіцы:

*"І тут не можа быць сумніву, што праз увесь час сваёй рэвалюцыйнай дзейнасці Каліноўскі супрацоўнічаў з палякамі і ў іхнім інтарэсе вёў прапаганду сярод беларускіх сялян. Хоць ён і пісаў па-беларуску (дарэчы, з масай паланізмаў – В.Ч.) аб свабодзе сялян, але такая свабода Каліноўскага была аднабаковая, польска-шляхоцка-каталіцкая, або вуніяцкая. Як згадвалася раней, Каліноўскі бачыў усё няшчасце і бяду беларускага мужыка толькі з боку Масквы, якая русіфікуе, але не хоча бачыць, як Варшава паланізуе і акаталічвае беларусаў. Ці можна ў даным выпадку назваць Кастуся Каліноўскага змагаром за вольнасць Беларусі, калі ён у сваёй адозве "Да мужыкоў зямлі польскай", падпісанай "Яська-гаспадар з-пад Вільні", піша па-беларуску заклік да народа "паўстаць разам з Польшчай і за Польшчу", бо "мы з прадвякоў палякі, на польскай зямлі жывём і польскі хлеб ямо" (падкрэслена намі – В.Ч.)". (с.158)*

Замест таго, каб паўшчуваць свайго лонданскага калегу, які пры ўсёй сваёй "сялянскай мудрасці" усё ж на гісторыка спецыяльна не вучыўся (бібліяграфічную даведку гл.: Гарбінскі Ю. Беларускія рэлігійныя дзеячы 20-га стагоддзя. Мінск-Мюнхен, 1999, с.38), за недакладнае цытаванне гістарычных дакументаў і нагадаць, што гісторыкі-спецыялісты ў сваёй большасці лічаць згаданую адозву "Да мужыкоў..." падробкай (на ёй пячатка друкарні варшаўскага ўрада), гродзенскі прафесар цалкам з ім салідарызуецца.

Бяда Ю. Весялкоўскага "и иже с ним" – антыгістарызм. Вопыт адной эпохі без усялякіх карэктываў пераносіцца на іншыя эпохі. Адценні не заўважаюцца і ў разлік не бяруцца. Палякі ўсе – і "белыя", і "чырвоныя", і любыя іншыя – кепскія для беларусаў ва ўсе часы.

Пагодзімся, у гісторыі ўзаемадачыненняў Беларусі і Польшчы (як, дарэчы, і ўзаемадачыненняў Беларусі і Расіі) было нямала складаных і нават змрочных старонак. Аднак у 1863 годзе (як і ў часы Касцюшкі) Польшча ў асобе сваіх лепшых прадстаўнікоў несла перадавыя ідэі і падтрымлівалася ўсім прагрэсіўным чалавецтвам ( у тым ліку і ў Расіі – А.Герцэнам і іншымі).

Гэта стварала аснову для супрацоўніцтва Каліноўскага як выразніка інтарэсаў беларускага народа з польскім шляхецкім вызваленчым рухам. "А калі паны схочуць трымаць з намі, так няхай робяць па свентай справядлівасці: бо калі іначай – так чорт іх пабяры! Мужык, пакуль здужае трымаць касу і сякеру, бараніць свайго патрапіць і ў нікога ласкі прасіць не будзе" – вось пазіцыя Каліноўскага ("Мужыцкая праўда", № 1). Рашуча адстойваючы ў спрэчках з варшаўскімі канспіратарамі суверэнітэт Беларусі-Літвы, ён тым не менш зыходзіў з таго, што "польскае дзела — гэта наша дзела, гэта вольнасці дзела" (Каліноўскі К. За нашу вольнасць: Творы, дакументы. Мн., 1999, с.43). І меў рацыю. У 1863 г. гістарычная праўда па вялікім рахунку была на баку паўстанцаў, а не на баку Мураўёва і царскага самадзяржаўя.

Феномен Каліноўскага нельга зразумець у адрыве ад працэсу фарміравання беларускай нацыі ў 19-м ст. Колькі б мы не шукалі недахопаў у дзейнасці Каліноўскага, абсалютна ясна, што Кастусь Каліноўскі, яго дзейнасць і творчасць — адзін з важнейшых этапаў на гэтым шляху. Кім быў Каліноўскі, сведчыць і яго развітальны верш з-пад шыбеніцы. Верш гэты на беларускай мове. Пашукайце яшчэ такі прыклад у гераічнай і трагічнай беларускай гісторыі.

А хіба не характэрна: з паўстаннем 1863 г. у той ці іншай меры былі звязаны амаль усе тагачасныя беларускія літаратары – Ф.Багушэвіч, В.Дунін-Марцінкевіч, А.Вярыга-Дарэўскі, Ф.Тапчэўскі, Я.Буль, А.Абуховіч і іншыя. Амаль уся беларуская літаратура ў поўным складзе. Як спалучыць гэты факт з канцэпцыямі Ю.Весялкоўскага або В.Чарапіцы?..

Мы адкрытыя для дыялога, гатовыя цярпліва выслухоўваць апанентаў (пажадана —дастаткова падрыхтаваных), але не можам прыняць канцэпцый, якія недапушчальна і беспадстаўна збядняюць гісторыю беларускага народа.

**Генадзь Кісялёў**
**Мінск**

# ФРАНЦУЗСКІ ВУЧОНЫ – ГРОДЗЕНСКІ МЕДЫК

У Гродна доктар медыцыны, французскі прыродазнавец, анатам і хірург Жан Эмануэль Жылібер прыехаў з Ліона 15 кастрычніка 1775 года. Ён арганізаваў і ўзначаліў у старажытным беларускім горадзе каралеўскую медыцынскую акадэмію з анатамічным тэатрам. Заснаваў акушэрскую школу, каралеўскі клінічны шпіталь, батанічны сад, дзе было размешчана амаль дзве тысячы раслін і траў, у тым ліку 1500 замежных. Гэта быў першы батанічны сад у Рэчы Паспалітай і адзін з найлепшых у Еўропе.

Гродзенская акадэмія ажыццявіла тры выпускі дактароў. Гэтыя людзі працавалі таксама і ў сельскай мясцовасці. Дапамогу аказвалі бясплатна. Сам Ж.Э.Жылібер у 1781 годзе пераехаў у Вільню, быў прафесарам натуральнай гісторыі медыцынскага факультэта Вышэйшай літоўскай школы. У 1783 годзе ён вяртаецца ў Францыю. Удзельнічаў у рэвалюцыі 1789-1794 г.

2-га ліпеня гэтаму славутаму вучонаму споўнілася 260 гадоў з дня нараджэння (1741-1814). За шэсць гадоў працы ў Гродне ён пакінуў аб сабе добрую памяць. Таму былы батанічны сад носіць імя Жылібера. Цяпер гэта гарадскі парк. У гонар юбілею медыка гродзенскае навуковае таварыства гісторыкаў медыцыны сумесна з дзяржпрадпрыемствам "Гроднааблпошта" выпусціла ў абарот мастацкі канверт з выявай прафесара Ж.Э.Жылібера.

**Антон Лабовіч**

■ ШКОЛЬНАЕ КРАЯЗНАЎСТВА

# АДПРАЦАВАЛІ ГОД, ПАДВЯЛІ ВЫНІКІ

5 ліпеня адбылося паседжанне Рады Згуртавання школьных краязнаўцаў (ЗШК) Гродзенскай вобласці. Гэтая грамадская структура ўтворана ў чэрвені 2000-га года на ўстаноўчым з'ездзе ЗШК. Старшыёй Рады тады быў абраны А.П.Госцеў, намеснікамі – В.Р.Карнялюк, С.А.Піваварчык, А.Я.Кравец. За мінулы час праведзена прыкметная арганізацыйная работа па вызначэнню і дапрацоўцы Статута Згуртавання, наладжванне творчых адносін з аддзелам адукацыі аблвыканкама.

На паседжанні Рады былі падведзены вынікі працы першага года дзейнасці ЗШК, абмеркаваны праблемы і перспектывы школьнага краязнаўчага руху на Гродзеншчыне. Была абмеркавана і прынята Праграма работы на 2001-2002 навучальны год.

Свае думкі выказалі А.П.Госцеў, А.Г.Майсяёнак, А.Я.Кравец, І.І.Лукашык, настаўнік гісторыі школы № 22 А.А.Смірноў, старшы метадыст АЦДЮТ Т.А.Еўдакімава, настаўнік біялогіі Сялявіцкай СШ Слонімскага раёна С.К.Клёсаў, вучань 11-га гісторыка-культуралагічнага класа ліцэя № 1 г. Гродна Сцяпан Стурэйка.

Асноўную ўвагу выступоўцы засяродзілі на арганізацыйных праблемах дзейнасці ЗШК. Неабходна дамагчыся максімальнага ахопу ўсіх школ вобласці, стварэння мясцовых суполак ЗШК, прыкласці намаганні па пераадоленню міжведамасных бар'ераў устаноў культуры і адукацыі, у прыватнасці, актыўнае далучэнне да працы Згуртавання раённых бібліятэк.

Галоўным перспектыўным напрамкам дзейнасці ЗШК Гродзенскай вобласці сябры Рады бачаць у стварэнні інфармацыйна-метадычнага цэнтра школьнага краязнаўства (пакуль што на базе ліцэя № 1 г. Гродна).



**На здымку: група актывістаў школьнага краязнаўчага руху на Гродзеншчыне (злева направа) – Таццяна Еўдакімава, Алесь Госцеў, Анатоль Смірноў, Іна Лукашык, Аляксандра Кравец, Сяргей Клёсаў (Слонімскі р-н), Сцяпан Стурэйка.**

# РАБОТЫ ШМАТ, БЫЛА Б АХВОТА

На семінары сяброў Згуртавання школьных краязнаўцаў (ЗШК) Гродзеншчыны, Рады гэтай грамадскай арганізацыі прынята праграма дзейнасці на 2001-2002 навучальны год.

Будзе працягвацца збор фальклорных матэрыялаў, у тым ліку паданняў, песень, казак, прыказак, прымавак, забытых святаў, звычаяў. Па выніках работы плануецца выдаць зборнік.

Тэма "Гісторыя педагогікі Гродзеншчыны" паступова раскрываецца, дзякуючы запісам успамінаў, збору фотадакументаў, вывучэнню перыядычных выданняў.

Шэраг артыкулаў у СМІ распавядзе аб 100-годдзі Руска-японскай вайны (1904), 90-годдзі Першай Сусветнай вайны (1914).

Намечана правесці шэраг краязнаўчых мерапрыемстваў. Сябры Згуртавання прымуць удзел у падрыхтоўцы і правядзенні абласной краязнаўчай канферэнцыі "Я гэтым горадам апекаваны", абласных краязнаўчых конкурсаў "Галасы гісторыі", відэа- і слайд-фільмаў гарадоў і мястэчак Гродзеншчыны, конкурсу "Знаўца роднага краю", экалагічных праектаў. Праграма дзейнасці прадугледжвае абагульненне вопыту работы школьных народных музеяў.

Навукова-метадычныя распрацоўкі па школьнаму краязнаўству прадугледжваюць вывучэнне тэмаў "Як праводзіць археалагічныя даследаванні", "Як весці дзённік", "Як праводзіць апытанне мясцовых жыхароў", "Як збіраць і вывучаць мясцовыя моўныя дыялекты, фальклор, этнаграфічны матэрыял", "Як ствараць сямейны летапіс", "Як ствараць летапіс свайго населенага пункта".

Будзе падоўжана стварэнне банку дадзеных "Гродзеншчына". Гэта збор біяграфічных і бібліяграфічных звестак пра людзей, лёсам знітаваных з краем; дадзеных аб гістарычных помніках; генеалагічных, геральдычных і тапанімічных звестках.

А.Быліцкі

**Рада Гарадзенскай краязнаўчай асацыяцыі і Управа Беларускага краязнаўчага таварыства імя Т.Нарбута з глыбокім смуткам паведамляюць, што 24 ліпеня на 69-м годзе жыцця памёр**

**КОРЗУН Эдуард Сямёнавіч**

**Ён быў вядомым краязнаўцам, заснавальнікам народнага музея Гальшанскай СШ, паважаным працаўніком асветы і беларускага школьніцтва, сябрам Управы БКТ імя Т.Нарбута, сябрам Рады Ашмянскага краязнаўчага таварыства.**

**Краязнаўцы Гродзеншчыны выказваюць глыбокае спачуванне родным і блізкім нябожчыка. Лепшая памяць аб Корзуне Э.С. – працяг справы яго жыцця, шанаванне ўсімі гарадзенцамі свайго цудоўнага краю, багатай даўніны, вывучэнні і захаванні спадчыны гэтай постаці беларускай культуры.**

Бюлетэнь «Краязнаўчая газета»

Выдаецца на беларускай мове. На правах унутранай дакументацыі распаўсюджваецца бясплатна.

Адрас: 230023 г. Гродна, п/с 22.

Наклад 299 асобнікаў
Адказны за выпуск Сцяпан Ярашчук
Дызайн і вёрстка Адам Кір'яцкі

Бюлетэнь дабрачынна падрыхтаваны сябрамі краязнаўчых суполак і аб'яднанняў Гродна і надрукаваны пры падтрымцы Інстытута адкрытага грамадства (Парыж) і абласнога аб'яднання "Ратуша"